2. **АНТАНОВІЧ АЛЯКСАНДАР**—земляроб з вёскі Княгініна, Крывіцкае воласьці, Вялейскага пав. адзін з вельмі актыўных сяброў б. Грамады.

3. **ЗАБЕЛЬСКІ ЯНКА** — земляроб. з вёскі Караблі, Гарадзецкай вол., Маладэчанскага пав., былы грамадавец, радны Гарадзецкага самаўраду.

4. **ГРЫШКЕВІЧ ВІНЦУК.**

## Кандыдаты ў Сэнат.

1. **ПАВАЛ АРЦІШЭЎСКІ** 60 г., судовы абаронца, стары грамадзкі дзеяч.

2. **АЛЯКСАНДАР МІХАЛЕВІЧ**, 48 г., дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі.

Кандыдатуры грам. Арцішэўскага і Міхалевіча выстаўлены ў двух ваяводзтвах — Наваградзкім і Віленскім, пры гэтым у Віленскім ваяводзтве Міхалевіч стаіць на 1 мейсцы, а ў Наваградзкім на гэтым мейсцы стаіць гр. Арцішэўскі.

# Прадвыбарная хроніка.

### Сьпісак Цэнтралеву па Пінскаму выбарнаму вокругу.

У свой час сьпісак г. зв. Цэнтралеву (куды ўваходзяць П. П. С. і іншыя апазыцыйныя партыі) быў уневажнены.

Цяпер, як падаюць газэты, Акружная выбарная Камісія ў зьвязку з пратэстам аднаго з сяброў гэтай Камісіі зноў разглядала сьпісак і пастанавіла прызнаць яго важным.

### Ксяндзом забаронена весьці прадвыбарную акцыю.

Архіэпіскап Глёнд выдаў загад да ўсяго каталіцкага духавенства, ў якім ён забараняе касьцельную амбону ператвараць у палітычную трыбуну і каб ні ў якім выпадку яно не ўкручвалася ў прадвыбарную акцыю.

### Яшчэ адзін беларускі сьпісак.

Толькі ў нашых прымітыўных умовах грамадзкага жыцьця магчымы такія рэчы, якія здараюцца ў нас.

У сучасных Соймавых выбарах мы маем яшчэ адну беларускую „партыю“, якая складаецца хаця толькі з двух асоб, але затое мае вельмі гучны назоў — „Партыя незалежных беларускіх радыкалаў“.

У яе ўвайшлі два б. пасла—А Стэповіч і К. Юхневіч і трэба спадзявацца, што больш ніхто ня ўвойдзе.

Зразумела, што „партыя“ гэта была патрэбна яе арганізатарам, каб як небудзь улезьці ў Сойм.

# Грамадзянкі і Грамадзяне Культурнікі!

На прошлым тыдні „Цэнтрасаюз“ ужо распачаў сваю дзеяльнасьць у галіне культурна асьветнай. 25-27 гэтага кастрычніка былі высланы інструктары з мэтаю наладзіць арганізацыю беларускіх бібліатэк-чытальняў Цэнтрасаюзу, а сёньня ўжо атрыманы весткі, што за гэную справу вельмі горача ўзяліся нашыя вясковыя дзеячы. Інструктары выехалі пакуль што ў Вялейшчыну, Дзісьненшчыну, Лідчыну, Навараградчыну і Стаўпеччыну.

Зразумела, што Цэнтрасаюзу з браку грошай немагчыма будзе ахапіць адразу ўвесь абшар Заходняе Беларусі і дайсьці да самых глухіх куткоў нашае бацькаўшчыны і дзеля гэтага на мясцох беларусы самі павінны парупіцца аб гэтай справе. Той, хто хоча залажыць бібл.-чытальню павінен зьвярнуцца ў Саюз з паведамленьнем ці ёсьць хата на чытальню і кандыдат на загадчыка. Загадчыкам можа быць згодна закону асоба (мужчына ці кабета усё роўна), якая мае поўных ня менш 21 гадоў, Польскае obywatelstwo і не абмежана ў правох карным судом. Па атрыманьні такога паведамленьня Цэнтрасаюз ці вышле свайго інструктара ці то дасьць адпаведныя інструкцыі, як аформіць гэтую справу.

За працу, Грамадзяне!

Прыступайце да будовы сваіх культурна-асьветных пляцовак, бяручы сваю справу ў свае рукі!

„Цэнтросаюз“

Новым канкурэнтам да Соймавага карыта вельмі незадаволены орган Сельсаюзнікаў і Хадэкаў „Беларускі Кліч“, які з зусім зразумелых прычын абурваецца на „радыкалаў“ і піша між іншым наступнае:

„Чым-жа розьняцца гэтыя модныя радыкалы ад радыкалаў сапраўдных? Рожніца між аднымі і другімі аграмадная. Сапраўдныя радыкалы маюць на мецэ справы палітычна-грамадзкія, а „модныя радыкалы“ — чыста асабістыя, каб за ўсякую цану дарвацца да поўнага карыта...“

А далей газэта задаець такое пытаньне:

„Што зрабілі добрага Стэповіч з Юхневічам, будучы пасламі для народу? Проста нічагусенькі“.

Аб тым, што „радыкалы“ Юхневіч і Стэповіч нічагусенькі не зрабілі для народнай справы — ўсе добра ведаюць і бяз „Беларускага Клічу“.

Але варта было-б задаць такое самое пытаньне і адносна іншых „выпрабаваных парламэнтарыях“, якія таксама з няменшай энэргіяй лезуць да Соймавага карыта, аднак аб грамадзкай працы якіх чуваць тое самае, што і аб працы новаяўленых радыкалаў,

Сельсаюзна-хадэцкім публіцыстам варта было-б крыху затрымацца над гэтым пытаньнем.

# Увага чытачом-коопэратарам.

Беларускі Студэнскі Саюз маець намер адчыніць у хуткім часе коопэратыўныя курсы цераз карэспандэнцыю. Мэтаю нашых курсаў, як падаець абвестка ў апошнім нумары „Студэнскае Думкі“, будзе прыгатаваньне ідэовых і фаховых кіраўнікоў коопэрацыі на мяйсцох. Намер добры і мэта пахвальная. Бязумоўна нам такія сілы патрэбны; яны павінны быць ў кожнай вёсцы, яны павінны ахапіць сабою ўсе куткі Беларусі, каб залажыць фундамант і пачаць будову коопэрацыі, якая нажаль сёньня на нашых землях не выяўляець жыцьця, тагды, калі другія народы ў гэтым кірунку патрапілі зрабіць шмат Тут у першую чаргу належаць нашыя суседзі Украінцы.

Нам на гвалт патрэбны коопэратыўны рух, бо бяз яго мы хіба-ж не патрапім збудаваць свайй эканамічнай незалежнасьці, без яго не патрапім палепшыць свайго дабрабыту. Думаю, што гэтыя ўсе пытаньні будуць шырока высьвятляцца ў адпаведных часопісах, як у „Сасе“, дзе ім ўжо сёньня выдзелена адпаведнае пачэснае мейсца. Мне тут толькі хацелася-б забраць голас у справе чыста тэхнічнай, гэта знача ў справе мэтоды завочнага навучаньня.

Вось-жа гэтая мэтода завочнага навучаньня так пашырана ўва ўсіх культурных краёх, і то ўва ўсіх галінах навукі, што сёньня там няма жаднае перашкоды, не адрываючыся ад свайй звычайнай штодзеннай працы, здабыць якую небудзь фаховую веду. Тут трэба сказаць, што ў коопэрацыі, гэты спосаб зьяўляецца амаль-што ня вылучным (бо спэцыяльных школаў гэтае навукі няма). Пры завочным навучаньні падаець вучыцель навуку сваім вучням не пры помачы жывога слова, з катэдры, а пры помачы друкаваных лекцыяў, якія вучню перасылаюцца лістоўна. Лекцыя атрыманая праз вучня, якая маець у сабе больш менш гадзінны выклад вучыцеля з катэдры, вывучваецца ім дакладна, а каб вучань меў магчымасьць пераканацца, ці ён яе дакладна ўсвоіў, дык у канцы лекцыі знаходзяцца пытаньні, паводле якіх вучань мусіць напісаць выпрацаваньне і перасылаць яго выкладаўцы, каб той зноў-жа з свайго боку мог ацаніць пасьпехі вучня. Калі вучань чаго небудзь не разумее ў выкладзе, то прыпісывае, што тэй і тэй квэстыі ён ня мог зразумець і вучыцель зараз-жа прыходзіць яму з помаччу. Папраўленыя працы і адказы вучыцеля на незразумелыя квэстыі перасылаюцца вучню з наступным выкладам і гэтак аж да канца курсу. Пасьпехі-ж вучня, ўзятыя з яго прац, запісваюцца кождаразова ў асобнай кнізе, і паводле гэтых ацэнкаў вучань атрымоўваець пры канцы курсаў пасьведчаньне аб аканчаньні. Гэтак маюць выглядаць і коопэратыўныя курсы Беларускага Студэнскага Саюзу.

Паглядзімо-ж якія выгады даець завочны (карэспандэнцыйны) курс.

# „Абаронцы“ працоуных.

**Маленькі фельетон.**

Сёлетняя пагода ведама кожнаму: — дзьве гадзіны пагода,—тыдзень дождж, а пасьля зноў тыдзень дождж і дзьве гадзіны пагода. Улучыў я неяк момант, выйшаў гараць у поле, аж бачу, бягуць з вёскі людзі і старыя і малыя, жанчыны з дзяцьмі на руках уцякаюць, як ад пажару якога.

— Што такое, пытаюся ў людзей, за няшчасьце здарылася?

— Там... там... паны... пішуць... апісваюць... бармоцяць нязвязна людзі, а на твару іх сьмяротны страх адбіваецца.

— А, Божа, наш Божачка! — галосяць бабы, — мусіць апошнія кароўкі за падаткі забіраць будуць?

— Мусіць зноў вайна будзе?—кажуць дзяды? —мусіць нас куды высяляць будуць, — жартачкі, ўсенькую вёску ад пачатку да канца перапісываюць!

Пабег я ў вёску, бачу, нейкія паны ў чатырох каля хат ходзяць, а местачковы паліцыянт побач іх на ровары катаецца. Пад пахамі ў кожнага партфэль, а на твары від такі важны,—важны, усёроўна, як у нашага солтыса на хрэзьбінах.

Падойдуць яны да хаты, паглядзяць на дошчачку з прозьвішчам гаспадара, дый нешта ў кніжачку пішаць.

Спытаўся я што ім трэба, чаго яны ходзяць і што ў кніжку запісваюць?

— Эх, вы, — кажуць, — цемната адвечная, жывеце вы, як быдла, не раўнуючы! Вас,—кажуць, клясавыя ворагі адаляваюць, вось і прыйшлі мы каб вашу вёску ашчасьлівіць. Скажэце, кажуць, сялянам, каб часьцей на пошту хадзілі, там іх вялізнае шчасьце чакае, там ім ідзе выбаўленьне ад беднаты і цемнаты.

Стаю я, як дурань, нічога толкам ня цямлячы, а паны пайшлі сабе ў другую вёску, весела пасьвістваючы.

Доўга не магла ўсьціхаміріцца ўстрывожаная вёска. Чуткі, раджалі чуткі і пра падаткі і пра вайну і пра бяленьне хатаў, пра новыя каморкі, пра камасацыю, пра сэрвітуты і гэтак далей і далей.

Мінуў тыдзень, а мо' і крыху больш з тае пары. Сяляне паехалі ў мястэчка на кірмаш. Зайшлі на пошту, а там ім цэлыя пукі розных газэтаў панасылалі і з адрэсамі цюцелька-у-цюцельку, як на дошчачках, што на хатах гаспадароў.

Папрыносілі сяляне газэты да хаты, а самі прачытаць ніяк ня могуць, бо папольску ні ў зуб ня ведаюць. Толькі дзеці, што ў „повшэхную“ школу ходзяць, некаторыя большыя літары прасылябізаваць могуць: **„Газэта Хлопска“, „Самопомоц Хлопска“, „Роботнік“** і гэт. д.

Штотыдзень, а нават штодзень газэты дарма прысылаюць; сяляне ня йнакш, як з торбамі на пошту ходзяць. Напакуюць газэту ў поўную торбу, а пасьля ў краму прадаваць нясуць.

Ніхто так ня цешыцца з выбараў, як наш Алтар, бо газэтнай паперы ў сялян колькі хочаш,—цэлае кілё паперы за аднаго селядца даюць.

Прайшло яшчэ часу тыдзень, або два. Зноў прыехалі ў нашу вёску нейкія паны, гэтым разам у трох, такія чысьценкія, прылізаныя з партфэлямі, як бочкі, пад пахай, а на пальцах капцюры даўгія—даўгія, як у чорта, толькі нейкім бліскучым лякам памазаныя. Склікалі яны народ. Кожнаму цікава, што тыя важныя паны баяць пачнуць.

— **Товажыше**—селяне!—заклікаюць яны.

— Гм... ад якога гэта часу паны сталі таварышамі мужыкоў?—перашэптваюцца сяляне.

— Тысячы гадоў,—крычаць далей аратары— вы цярпелі паншчыну, паняверку і зьдек, вы жывеце як быдла ў цемнаце і беднаце. Мы прыйшлі да вас, каб даць вам багацьце, асьвету, радасьць жыцьця і ўсё, усё, што толькі вы самі сабе зажадаеце.

Сяляне—**хлопі!** ня слухайце сваіх беларускіх правадыроў, бо яны наемнікі капіталістаў, фашыстаў, камуністаў, — усе яны нясуць вам няволю. Мы вызваленцы, пэпээсаўцы і хлопы з „Строніцтва Хлопскага“ аб'едналіся дзеля таго, каб выратваць вас з беларускай няволі, а даць вам усё, што ёсьць на сьвеце, бо, фактычна, усё, што на зямлі, пад зямлёй, у паветры, у небе, ў раю — усё ваша, бярэце сколькі хочаце! Ніхто вам столькі даць ня здолее, сколькі мы, бо мы праўдзівыя барацьбіты працоўных сялян і работнікаў, глядзеце, вось і мы маем сьцяг чырвоны, а на ім напісана:

„Пралетарыі ўсіх краёў—злучайцеся!“

Шмат усякай усячыны казалі тыя паны з партфэлямі. Сяляне слухалі і пачалі злосьці набірацца:

— А хто, — крычаць сяляне,— нам асаднікаў прыслаў? А хто памагаў нашы беларускія школы закрываць? Што вы нам далі ў той час, калі вы ў Сойме і ў міністэрствах сядзелі, юды?

— Прэч!... вон... Лупі іх па карку ашуканцаў!—крычалі грозна сяляне. Шум, гомак, сьвіст заглушалі панскія галасы. Бачаць паны, што ўжо непераліўкі, лахі пад пахі, партфэлі на плечы і ходу, толькі чутно было як паміж сабой барматалі:

— Хамы — быдла! Цёмнае зьвярьё! — для іх працуеш, стараешся, а яны табе пад нос сьвістаць, асьмельваюцца:

Але паны горш быдла: ўчора іх прагналі, — сёньня яны зноў тут. Ці то кірмаш, ці то фэст які ў мястэчку, зноў іх поўна. Узьбярэцца іхні аратар на ганак, на воз сялянскі, або на бочку якую і ўсё балбоча, балбоча і балбоча, як аэроплян у паветры, а ўсё пра тыя дабрадзействы, якія на наш народ неспадзявана з рук розных „Строніцтваў Хлопскіх“, „Вызваленьняў“ і „Пэпэсаў“ спадуць.

І хоць гоняць іх сяляне, але яны, як грыбы пасьля дожджу вырастаюць, так і круцяцца, як вужы сярод народу. Свае газэты на права і на лева раздаюць, а адозвамі вуліцы, як сьнегам пакрылі. Таго-сяго грашмі падкупілі. І вось, пачаўся сярод сялян разлад: адны гоняць прэч няпрошаных гасьцей, другія пачалі за іх цягнуць. Разьбілася вёска на два лягэры. Усё глыбей і глыбей пачалі „хлопы“ з „Строніцтва Хлопск.“ і пэпээсы ў вёску свае карэньні запускаць.

Пачаў я тлумачыць тым сялянам, што гэта за ашуканцы ім галовы туманяць, стаў пералічываць колькі яны крыўдаў нашаму народу прынеслі і яшчэ больш прынясуць, калі мы іх слухаць будзем. Усё-ж цяжка было пераканаць адразу сялян, адны згаджаюцца, а другія недавераюць.

Узяў я тагды аднаго, больш талковага селяніна з ліку гэтак зв. атуманеных, павёз яго ў Вільню. Паклікаў да сябе на кватэру некалькі знаёмых сяброў, якія перш да П. П. С. належылі, а цяпер без агіды аб іх слухаць ня могуць. Пачалі яны апавядаць майму селяніну пра розныя штучкі пэпэсаўскіх правадыроў, як яны толькі дзеля грошаў сваім П. П. С.-ам дурням галовы марочаць, як яны нічога агульнага з працоўнымі масамі ня маюць, як яны коштам работнікаў і ся-

# ЯК ДАМАГАЦЦА ЎРАДОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ.

## Практычныя рады.

**А. Што павінен зрабіць кожны бацька беларус ці матка. ці апякун, якія маюць дзяцей у школьным узросьце.**

1. Кожны бацька, матка ці апякун павінны дбаць, каб іх дзеці вучыліся ў сваёй роднай беларускай школе.

2. Кожны беларус павінен скарыстаць свае права дамагацца беларускай школы для сваіх дзяцей.

3. Кожны бацька, матка ці апякун павінны напісаць дэклярацыю аб тым, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў роднай беларускай мове, абавязкава пайсьці ў гміну, заверыць там свой подпіс і праз паўнамоцніка пад расьпіску гэту дэклярацыю здаць Школьнаму Інспэктару да 31-га сьнежня 1930 г.

Увага: Заверыць дэклярацыю можа, апроч гміны, яшчэ Міравы Судзьдзя, Натарыўс, Староства. Заверка на дэклярацыі подпісу солтысам, ці сьвяшчэньнікам, ці ксяндзом, ці вучыцелям, ці кім іншым, ня будзе мець ніякае сілы, і дэклярацыя забракуецца.

4. Дэклярацыю трэба падпісваць у прысутнасьці войта.

5. Калі бацька, ці матка, ці апякун, няпісьменны, то трэба папрасіць пісьменнага чалавека, каб у прысутнасьці войта расьпісаўся, як за няпісьменнага бацьку, і войт заверыць ужо гэты подпіс.

Увага. Калі ёсьць няпісьмен, бацька, а матка пісьменная, то матка, ці дзіця, ня можа падпісвацца на дэклярацыі за бацька; трэба, каб падпісаўся хто іншы і дарослы.

(Працяг будзе).

Форма дэклярацыі

# Дэклярацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* .................................................. *грамадзянін (ка)*
(імя і прозьвішча)

*Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* ..............................
(назоў вёскі, места)

*гміны* ........................ *павету* ........................ *як бацька *)—маці—*
(назоў воласьці) (назоў павету)

*праўны апякун дзіцяці—дзяцей—у школьным веку.*

*1.* .................................... *3.* ....................................
(Імя дзіцяці) (Імя дзіцяці)

*2.* .................................... *4.* ....................................
(Імя дзіцяці) (Імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79, poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў існуючую — маючую адкрыцца публічную народную школу ў* .................................................. *беларускае выкладовае мовы.*
(назоў вёскі, места)

*Дня* .............. / .............. *193* ...... *г.* ..............................................
(уласнаручны подпіс).

**Да Школьнага Інспэктара**

*ў м.* ..................................................
(назоў места)

*) У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы закрэсьліць.



Адказны Рэдактар: Н. Крук. Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22. Выдавец: „Беларускі Цэнтрасаюз“.